

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 47(381)** **2 СНЕЖНЯ 1998 г.**


## ВІНШУЕМ



Аднаму з самых вядомых і любімых у народзе дыктараў беларускага радыё Леаніду Дзяркачу спаўняецца 60 год.

Доўгія гады яго прыгожы, прафесійны голас гучаў у эфіры па ўсёй Беларусі. Гэты голас вельмі яскрава даносіў да кожнага беларуса прыгажосць роднай мовы, яе напеўнасць і мілагучнасць. Абуджаў у нашых людзей пачуццё ўласнага і нацыянальнага гонару, жаданне "людзьмі звацца".

І цяпер шаноўны спадар Лявон актыўна ўдзельнічае ў дэмакратычным руху нашай Бацькаўшчыны, набліжаючы пабудову незалежнай, еўрапейскай, дэмакратычнай, свабоднай, нацыянальнай, духоўна багатай дзяржавы -Беларусь.

Ад усяго сэрца зычым нашаму сябру, шаноўнаму спадару Лявону Дзяркачу моцнага здароўя, працаздольнасці для дабра нашай Бацькаўшчыны.

Шануй Вас Бог.

**Старшыня рады ТБМ Кастрычніцкага раёна**
**Ян Грыб**

**Старшыня Рады БНФ імя Т.Касцюшкі Кастрычніцкага р-на**
**Алесь Кавалец.**

***Л.Дзяркачу, дыктару, сапраўднаму беларусу.***
***Да 60-годдзя.***

О Беларусь! Маскоўскім ботам
Твой лёс растоптаны ўшчэнт.
Край набрыняў крывёй і потам,
Цярпецьмем колькі мы яшчэ?

Чужынцы край апанавалі,
Крыжы святыя пасяклі,
"Звезду" цвікамі ўмацавалі
На грудзі мілае зямлі.

Народ задураны і спіты,
І бальшавіцкаю хлуснёй
Дзесяцігоддзямі забіты
І мовы выракся сваёй.

Заместа мовы - мат квітнее
І ў маладзёнаў, і ў сівых,
І штось зялёна - чырванее
Заместа сімвалаў святых.

А беларускім дзеткам школка
Гвалтуе душы, як іржой,
Змяніўшы "радугай" "вясёлку",
Калечыць моваю чужой.

Сябе стагоддзямі не зналі,
"Колтун" насілі ў галаве,
І гісторычныя скрыжалі
Нам фабрыкуюць у Маскве.

А па-над цемрай азіяцкай,
Што ўсцяж пакрыла Беларусь
Малодшабрацкасцю вар'яцкай,
Дзе зноў нялюдскі ператрус.

Над п'янствам чорным і нястачай
Знямелых душамі людзей,
Па-над цярплівасцю быдлячай,
Дзе аддаюць сваіх дзяцей

У чужыя школы і не чуюць
Радзімай мовы, песень тых,
І толькі з гонарам шануюць
Імёны ворагаў сваіх,

Па-над усёю гэтай гнюссю,
Як шчыры голас немаўля,
Гучыць, крычыць над Беларуссю,
Як згук вясновы жураўля,

І акупантаў, злыдняў, хлусаў
Сячэ, як шабляю з пляча
Сапраўдны голас беларуса,
Лявона голас, Дзяркача.

І голас той паўсюль пануе
Каго кранецца - той не госць,
А гаспадар, і сэрцам чуе
Радзімай мовы прыгажосць.

А голас кліча, абуджае,
Да свету з цемрадзі вядзе.
Народ знявечаны пытае:
"Дзе ж мова ваша, людцы, дзе?"

"Дзе мужнасць ваша,
памяць, вера,
Дзе гонар продкаў-ваяроў,
Якой яшчэ вам трэба мерай
Адмераць ганьбы і бароў,

Што Курапатамі завуцца?"
Гучыць над краем зноў і зноў:
"Зямля, пачуй, як сэрцы б'юцца
Тваіх абуджаных сыноў".

Ён кліча іх - славутых вояў
Герояў Сіняе Вады
І Воршы, Грунвальда герояў
І пераможнае Улы.

І Слуцка, Віцебска, Смаленска -
Усёй Беларускае зямлі,
Пад Мілавідамі, пад Менскам
Тых, што за волю паляглі ...

Нашчадкі тых вялікіх продкаў
Той голас чуюць - іх завуць.
На бой нялёгкі, не кароткі
Сыны Радзімы паўстаюць.

Ўстаюць Шыдлоўскія Вадзімы,
Ўстаюць Міроны, як працяг
Вялікіх бітваў за Радзіму
Пад бел-чырвона-белы сцяг.

Устаюць Баршчэўскія, Хадыкі,
Зяноны, Янкі, Сяржукі...
Дзеля святых спраў і вялікіх
Збірае родны Край палкі.

І мы ідзём з любоўю, з Богам,
І з праўдай чыстай, як абрус.
Цябе чакае Перамога,
Мая святая Беларусь!

**Ян Грыб.**
**Лістапад 1998 г.**

## 40 год да Бога па-беларуску

24 лістапада ў Менску ў будынку Скарынаўскага цэнтра адбылося віншаванне айца Аляксандра Надсана з нагоды 40-годдзя яго апостальскай дзейнасці на беларускай мове. Яго шчыра прывіталі кіраўнікі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі і Ганна Сурмач, ад кіраўніцтва ТБМ Алег Трусаў і Людміла Дзіцэвіч, вядомыя беларускія літаратары Рыгор Барадулін, Адам Мальдзіс, Уладзімір Арлоў, Арсень Ліс і інш. Ад фонду "Сакавік" выступіла Марыля Міцкевіч, ад светароў Менска - ксёндз-магістр Уладзіслаў Завальнюк.

## Па беларуску моляцца ў Пецярбурзе

12 лістапада ў храме Ўнебаўзяцця Найсвяцейшай Дзевы Марыі адбылася Служба (Паніхіда) ў сорак дзён пасля смерці пратасвіцера Яна Матусевіча. Паніхіду адслужыў Архімандрыт Сяргей Гаек, Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў у Беларусі. Служба завяршылася прамоваю высокага госця, які выказаў вялікую радасць з духоўнага адраджэння беларусаў Санкт-Пецярбурга, а таксама з прамовай аб жыцці беларусаў горада на Няве выступіў Валянцін Грыцкевіч, старшыня Згуртавання беларусаў Санкт-Пецярбурга.



## Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Хай тыя, хто любіць і ўмее гаварыць па-беларуску, робяць гэта заўжды. Тады і нашы дзеці і ўнукі не будуць гэтага цурацца, а потым — і іх дзеці.

Пойдзе добрая "ланцуговая рэакцыя".

І тады наша мове не будзе пагражаць знікненне. Яна жывая, пакуль гучыць!

**Мікола Курок**
**"Народная воля" 18.11.98г.**

*Я, канешне, жыву не ў вакууме і добра ведаю, адчуваю на кожным кроку, як варагуюць сучасныя ўлады з моваю тытульнай нацыі, даўшай назву дзяржаве, — нашай роднай, мілай беларускай мовай, яны ўсялякімі спосабамі — і адкрыта, і прыхавана — сеюць непрыязнь, нават ненавісць да яе.*

***М.Логінава***
***"Народная воля" 18.11.98г.***

Што не кажыце, а гаварыць па-беларуску сёння — гэта адкрыта супрацьстаяць акупацыі, прычым найперш — акупацыі ў сабе.

**Белая кніга мовы**
**"Наша Ніва" 9.11.98г**

*Замоўчваецца праўдзівая гісторыя беларускага народа, знішчаецца родная культура і мова.*

***Заява грамадскіх і палітычных арганізацый Гарадзеншчыны***
***"Пагоня" 10.11.98г***

Для стварэння нацыі, яе нармальнага існавання і перспектыўнага развіцця патрэбна наяўнасць неабходных крытэрыяў.

... патрэбна нацыянальная мова, усвядомленая, як найвялікшая агульнародная каштоўнасць культуры і жыцця духу.

... трэба, каб была нацыянальная літаратура на нацыянальнай мове, якая б стварала нацыянальныя вобразы і асэнсавала б лёс народа праз лёсы людзей.

... трэба, каб быў нацыянальны тэатр у нацыянальнай мове. Нацыянальны тэатр — гэта ёсць вобраз, адбітак нацый, люстэрка, у якім нацыя бачыць сябе.

**"Пагоня" 10.11.98г.**
**Зянон Пазняк**

Ужо другі год сваёй працы распачала беларуская секцыя радыё "Марыя" у Санкт-Пецярбурзе. У верасні мінулага года выйшла першая праграма - чытанне Евангелля з нядзелі і кароткі каментарый. Усяго толькі пятнаццаць хвілін гучала першапачаткова беларуская мова ў эфіры каталіцкага радыё. У гэтым годзе праграма вырасла па свайму эфірнаму часу да двух гадзін тыднёва. Таксама павялічылася інфармацыйная насычанасць праз наладжаныя сувязі з каталіцкімі выданнямі ў Беларусі. Да звычайнага корпуса праграмы - Евангелля і кароткага разважання, далучаны тры рубрыкі: гістарычная, якую вядзе студэнт Санкт-Пецярбурскага Дзяржаўнага Універсітэта Яраслаў Крывы, літаратурная, якую ачаляе выкладчыца рэлігіі Тарэса Шырма, Усходняй Царквы, дзе працуе спявак Лявон Габрусёнак. Беларускую секцыю на радыё "Марыя" ўзначальвае Сяргей Сурыновіч, семінарыст пятага курса Санкт-Пецярбургскай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі "Марыя-Каралева Апосталаў".

У беларускай праграме часта прымаюць удзел беларусы, якія жывуць у горадзе над Нявою, а таксама госці з Беларусі і замежжа. Не так даўно ў праграме "Магутны Божа" гучала пяшчотнае слова брата Вячаслава Пялінка, марыяніна з Любліна, які ўдзельнічаў у якасці перакладчыка на сімпозіўме, што быў прысвечаны багаслаўлёнаму Юрыю Матулевічу. З вялікаю любоўю брат Вячаслаў распавядаў аб марыянскай справе ў Беларусі ў пачатку нашага стагоддзя і аб планах кангрэгацыі на будучыню.

Кожная праграма "Магутны Божа" завяршаецца словамі малітвы ў розных інтэнцыях: за Царкву, за наш горад, за сем'і, за Радзіму Беларусь.





# Мы гэтага не хацелі !

***Шаноўны спадар рэдактар! 14 кастрычніка "Наша слова" надрукавала невялікі матэрыял А. Трусава "Забарона на прафесію па моўнай прыкмеце", дзе паведамлялася пра маё звальненне з універсітэта і далейшае беспрацоўе. Шмат людзей па тэлефоне выказалі мне сваю спагаду і цікавіліся прычынамі звальнення. Не маючы магчымасці падрабязна расказваць кожнаму пра ўсе перапетыі звальнення, я абяцаў ім расказаць аб гэтым праз "Наша слова".***

***Сёння з Вашай ласкі раскажу толькі пра адзін аспект гэтай гісторыі, які выразна характарызуе яе маральную падкладку.***

Студэнты, як і выкладчыкі, бываюць рознымі. І па-рознаму складваюцца адносіны паміж імі. Рознае ўклалася і ў мае 19 год працы ў ВНУ — ад запрашэння мяне стаць хрышчоным бацькам нованароджанага дзіцяці да пагроз знявечыць, калі не пастаўлю залік.

Кожны раз, пачынаючы заняткі з новай групай, спрабаваў перш-наперш растапіць ільдзінкі насцярожанасці, не расцерушыўшы настрою будучых настаўнікаў матэматыкі на асаблівую важнасць методыкі выкладання матэматыкі і на неабходнасць на гэтай прычыне высокай патрабавальнасці з майго боку. У пераважнай большасці гэта атрымоўвалася.

Вось і з гэтым курсам пачыналася ўсё традыцыйна. Нават моўны канфлікт (я быў у іх адзіным беларускамоўным лектарам, іншыя лектары чыталі свае курсы на расейскай мове) толькі выбліснуў і хутка затух. Студэнты пагадзіліся, што няведанне беларускім настаўнікам беларускай мовы не ўпрыгожвае яго, асабліва калі пашанцуе трапіць працаваць у беларускую школу.

... Так прамільгнулі тры семестры.

Гэта быў час адраджэння некалі легендарнага КВЗ. Не застаўся ў баку і Магілёўскі фізмат, у тым ліку і мой чацвёрты курс.

Каманда "Фізмат і К" (або, як яе ласкава называлі, "Фізмацік") на фоне зацуглянага грамадскага гумару ў Беларусі выглядала зусім някепска і лунала сярод эліты беларускага КВЗ, для чаго яе капітану даводзілася прыкладваць шмат энергіі. Але гэтай энергіі і раней на заняткі не вельмі хапала, цяпер жа злавіць студэнта на занятках было цяжка, а кантрольныя, залікі і экзамены здаваліся выпакутавана, але — усё ж любімец фізмата! — здаваліся ... пад зубоўны скрогат і ціхую лаянку выкладчыкаў.

Замучаны праблемай паставіць залік студэнту, які нічога з патрэбнага не выканаў, і я аднойчы на занятку не стрымаўся і выказаў ў бок капітана энергічна-з'едліва. Сам капітан, па-мужчынску спакойна праглынуў крыўду, так-сяк выканаў неабходнае і праз некалькі дзён залік здаў. Але курс закіпеў: Як! На любімца нападаюць! Гайда ўсе на абарону! ..

Знайшоўся ініцыятар, напісаў заяву дэкану: "Просім памяняць нам выкладчыка, бо мы не задаволены атрыманымі ведамі па метадыцы выкладання матэматыкі". І пусцілі ліст па руках для подпісаў.

З сарака студэнтаў падпісаліся 27, так званая кваліфікаваная большасць. Падпісаўся і капітан, вясёлы і знаходлівы. Нехта з тых, хто адмовіўся падпісацца, спрабаваў супакоіць, прытушыць эмоцыі, але дзе там, — курс усхадзіўся не на жартачкі. Заява пайшла ў дэканат.

Дэкан, як і робіцца звычайна ў такіх выпадках, пераправіў заяву загадчыку кафедры з прыпіскай "Прашу разабрацца па сутнасці. Вынікі разгляду падаць у дэканат у пісьмовым выглядзе да 20.02.96".

З заявай азнаёмілі мяне. Я паціснуў плячыма і адказаў, што гатовы пры ўдзеле кіраўніцтва абмяркоўваць са студэнтамі асаблівасці сваіх заняткаў.

На тым усё і спынілася. Бачачы, што нічога не адбываецца, я нагадаў загадчыку кафедры аб неабходнасці разглядзець заяву. "Добра", — сказаў загадчык і ... зноў забыў. Тады я звярнуўся да студэнтаў: "Вы падалі заяву, але ў дэканаце пра яе ўжо забылі. Напомніце, калі ласка. Я гатовы абмяркоўваць з вамі любыя пытанні, звязаныя з маімі заняткамі".

Чаму я так турбаваўся? Бо добра ведаў, што такое "незакрытая" паперка. Гэта як крывацечная рана, што ў любы момант можа завогніцца.

Але студэнты ўжо астылі. Адводзячы вочы ўбок, яны маўчалі. Ініцыятара развіваць, працягваць распачатую справу не знайшлося.

Мае заняткі ішлі, як і раней, але цяпер яны ўжо ўсіх задавальнялі. Крыху перашкаджала пачуццё няёмкасці, але яно паспяхова прыглушалася.

Прайшло паўгода. Скончыўся семестр, а разам з ім і мае заняткі. Чацвёрты курс пайшоў на летнія вакацыі.

Праз год мы зноў сустрэліся, бо дысцыпліна была ў ліку вядучых і выпускнікі здавалі па ёй дзяржаўны экзамен. Атрымаўшы свае "добра" і "выдатна" (ці зрэдку ніжэй), а затым і дыпломы аб вышэйшай адукацыі, былыя студэнты ступілі ў жыццё, кожны на сваю сцежку.

Студэнты пайшлі. А паперка засталася. Як бы ў засадзе.

У мяне надышоў тэрмін чарговага перавыбрання (як вядома, у ВНУ дзейнічае конкурсная сістэма прызначэння на пасаду — кожны выкладчык абіраецца радай ВНУ ці радай факультэта на пяць год, па заканчэнні якіх працэдура паўтараецца). Загадчыку кафедры Л.Латоціну не хацелася пакідаць мяне на кафедры (магчыма, ён тут меў нейкую рацыю), але аргументаў не хапала. І вось тут (праз два гады!) ён успомніў нарэшце пра заяву студэнтаў. У характарыстыцы сярод маіх "грахоў" была пазначана і нізкая ацэнка работы з боку студэнтаў. "Нават патрабавалі памяняць ім выкладчыка!.."

Рада факультэта "прыслухалася" да меркавання студэнтаў (мне тут хочацца сказаць: часцей бы так, але каб толькі не праз два гады, калі саміх студэнтаў паслухаць немагчыма) і прагаласавала большасцю галасоў "супраць". Тым і скончыліся мае 19 год працы ў ВНУ.

... Час ідзе. Студэнтаў таго былога курса (цяпер настаўнікаў) я раз-пораз сустракаю. Завязваюцца размовы. Між іншым расказваю і пра тое, якую ролю і маім лёсе адыграла іх паперка. Адныя збянтэжана змаўкаюць і адыходзяць, забыўшыся развітацца. Другія прыносяць прабачэнні. Трэція здзіўляюцца — "гэтага не можа быць!" Аднойчы сустрэў і былога капітана "Фізмаціка", які толькі што вярнуўся з вайсковай службы. Расказаў і яму. Той прыклаў руку да сэрца: "Міхаіл Пятровіч! Мы гэтага не хацелі!"

Веру. Канешне, не хацелі. Ды і не пра студэнтаў тут гаворка.

*Міхась Булавацкі,*
*беспрацоўны,*
*Магілёў,*

# Ліст да "Народнай Волі"

**Добры дзень, паважаная рэдакцыя!**

Вялікая непрыемнасць змусіла мяне напісаць гэты ліст у Вашую газету.

Такой знявагі атрымаць праз "Народную волю" я ніяк не чакаў ...

У нумары ад 17 верасня 1998г. паважаная мною газета надрукавала абразлівы для мяне як беларуса, разбуральны па змесце ліст "пенсионера Ивана Василевского". Пры гэтым, наколькі я разумею, скарыстаўшы словы дапісанта, сама рэдакцыя газеты дала гэтаму лісту правакацыйную, малапрыстойную па сваёй сутнасці назву.

Не напружваючыся разумова, адкінуўшы ў бок усялякую беларускую далікатнасць і талерантнасць "пенсионер Иван Василевский" з вышыні свайго "шестка" "клеймит" Беларускую мову. Бач ты, "на фоне русского языка белорусская мова выглядит убого и примитивно". Ды не мова, а Вашы думкі пра гэтую мову, Иван Андреевич Василевский, выглядаюць "убого и примитивно"! Азірніцеся: на парозе трэцяе тысячагоддзе, час, калі невуцтва становіцца анахранізмам.

Я разумею, што Вы — не сусветны геній Адам Міцкевіч, які ў славутай парыжскай Сарбоне казаў пра Беларускую мову: "... гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, якая ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана".

Я разумею, што Вы — не выдатны расіянін Леў Гумілёў, які лічыў, што Беларуская мова з'яўляецца адзінай усходнеславянскай мовай, якая дайшла да нашых дзён амаль у чыстым выглядзе яшчэ з часоў язычніцкай і дахрысціянскай Русі.

Я выдатна разумею, што Вы — не вядомы польскі паэт Віктар Гамуліцкі, які пісаў:

*... О мова Беларуская!*
*Твой гук заўсёды*
*як рэха даўніх дзён.*
*Ты - мова мірнага,*
*сардэчнага народа ...*

Я разумею, Иван Андреевич Василевский, што Вы не Аляксандр Купрын, не Гаўрыла Дзяржавін і не Іван Бунін, якія для ўпрыгожвання сваіх твораў бралі надзвычайныя па сваёй гожасці і сакавітасці беларускія словы.

У рэшце, я разумею, што размаўляючы, як мяркуеце "по-русски", Вы і не цяміце, колькі словаў праз "бедную" беларускую мову пазычыў сабе "богатый русский язык"!

Паспрабуйце задумацца над прымаўкамі: "Жить — не **тужить**" (ці ёсць у расейскай мове слова "туга"?), "Не так страшен чёрт, как его **малюют**" ( а можа — "рисуют"?).

Я звяртаюся да тых, каму беларушчына бяльмом у воку: паспрабуйце размаўляць "чисто по- русски"! Хто замінае вам казаць "бильярдная **палка**" замест " "бильярдный **кий**" (кій, кіёчак)? Хто замінае казаць "**чудо чудное**" замест "диво дивное" (дзіва, дзівіцца, здзіўленне), "вокруг **мира**" замест "вокруг **света**" (свет, сусветны), "тайный **ужин**" замест "тайная **вечеря**" (вячэра, вячэраць), "**кажется** мне" замест "**сдаётся** мне" (здаецца). Хто замінае Вам "забыць" для Вашай асабістай расейскай мовы словы, паходжанне якіх вельмі празрыстае: **вызволять, хворый, друкарь, усмешка, шлях, народиться, хата, сгинуть, межа, потребность** (надта ж не падабаецца Івану Василевскому беларускае "**трэба**" ў параўнанні з рускім "**нужда**"!) **жито, жнея** і гэтак далей, і гэтак далей ... І не забывайцеся таксама выключыць тэлівазар, калі папулярны расейскі гурт "Мумий Троль" спявае па ім свой хіт "**Утекай**" (уцякай).

І ніколі не чытайце казку Яршова "Конёк-горбунок", дзе ёсць такія словы: "И такой он стал хороший, и такой он стал **пригожий**" (прыгожы) ... І нават не адкрывайце кнігу В.П.Анікіна "К мудрости ступенька", а то яшчэ вычытаеце там такі сказ: "**Недорослого** зайца называли "**заяня**" ...

Зрэшты, няхай Иван Василевский і яго "аднадумцы" размаўляюць, як умеюць, і чытаюць, што пажадаюць, гэта іх права і іх праблема. Адна толькі настойлівая просьба: не трэба сваё невуцтва і бескультур'е са спрактыкаванасцю ката абрушваць на Святую пакутніцу — Беларускую мову, пранесеную праз стагоддзі і захаваную ў любові для наступных пакаленняў!

Як "аматар беларускай мовы", прапаную Вам, Иван Василевский, і Вам падобным "любителям" паразважаць пра беларушчыну, не ведаючы яе, псіхалагічна-лінгвістычны тэст Лядаховіча-Таміліна. **Перакладзіце на расейскую мову з беларускай: "Я люблю сваіх суседак, але кахаю толькі жонку".** Пераклалі? А цяпер паспрабуйце зрабіць вывад ...

А вывад адзін: не трэба бяздарна параўноўваць словы беларускай і расейскай моваў — не трэба, Иван Василевский, выкрасаць іскру нянавісці!

Зрэшты, усе намаганні прынізіць беларушчыну вартыя жалю. Ужо 300 год (калі лічыць ад часу забароны выкарыстання старабеларускай мовы ў афіцыйным справаводстве Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага), ужо 300 год шавіністы ўсіх масцей спрабуюць прынізіць Беларускую мову. Ды марна! Як жыла Яна, светлая, чыстая, родная, так і жыве. І будзе жыць! І праз 20 гадоў, і праз 200! І будуць на ёй складаць песні, звяртацца да Бога, пісаць кнігі, прызнавацца ў каханні. А вось пра ненавіснікаў Яе не застанецца і згадкі!

Бо:

***Беларускае Слова — ад Бога.***
***Слову нашаму Бог дапамог!***
***Хто не любіць яго, ад таго***
***Назаўсёды адвернецца Бог.***

(Рыгор Барадулін)

Паважаная рэдакцыя! Паласнулі вы мяне "письмом Василевского" па маім беларускім сэрцы. Не чакаў я такога ... І тым большая мая горыч, што я з'яўляюся чытачом і падпісчыкам "Народнай волі" з першага яе нумару. А да гэтага з першага нумару (ён у мяне, нават, захаваўся) чытаў і падпісваў "Народную газету" пад рэдактарствам Іосіфа Сярэдзіча.

Мне ж да гэтага "Народная воля" здавалася такой годнай, стваральна-беларускай. І тут — зняважлівы, разбуральны ліст чалавека, не абцяжарнага думаннем, ды яшчэ побач з чыстым, шчымліва-светлым фотаздымкам беларускага краявіду ... Паважаная рэдакцыя! Няўжо для ўзняцця беларускай годнасці, яе неабходна прынізіць? Як абарвалося нешта ў душы ... Не ведаю, ці знойдзеце Вы ў сабе сілы і разумення папрасіць прабачэння ў мяне ды іншых, "узятых за жывое" беларусаў, за тую міжвольную знявагу, якую прычынілі друкаваннем "письма Ивана Василевского" ...

Цвёрда ведаю адное: пры паўтарэнні падобнай знявагі я не знайду ў сабе сілы надалей чытаць і выпісваць газету "Народная воля". А пакуль — гэта паважаная мной газета, мая газета. І таму я спадзяюся на разуменне, я спадзяюся, што мой адказ Івану Василевскому будзе надрукаваны на старонках "Народнай волі" ў бліжэйшы тэрмін, а разбуральным, незычлівым да ўсяго Беларускага сілам, на маю думку, не месца на старонках прыстойнай газеты.

*Ваш чытач і падпісчык*
*Зміцер Грачнык.*
*18.09.1998г.*

*З фондаў музея Максіма Багдановіча ў Гародні*

# Сям'я Багдановічаў у Гародні

2 ліпеня 1892 года Адам Багдановіч піша з Гародні да Марыі першы ліст аб тым, што ён учора а 14-й гадзіне прыехаў сюды, а сёння ўжо ўладкаваўся на працу ў Сялянскі пазямельны банк памочнікам бухгалтара, пазнаёміўся з упраўляючым і сваім непасрэдным начальнікам — бухгалтарам і наняў кватэру.

У Гарадзенскі Сялянскі пазямельны банк афармілі Багдановіча пераводам, аб гэтым ёсць ліст ад 17 чэрвеня 1892 года.

Гародня была губернскім горадам хіба з тае прычыны, што знаходзіўся на самай кароткай дарозе да сталіцы Санкт-Пецербурга. Выглядала, як вялікае мястэчка — па перапісу 1897 года тут жыло не больш 50 тысяч чалавек, значную частку складалі афіцэрскія сем'і з мясцовага гарнізона расейскай арміі. У 1892 годзе ў горадзе было 70 дробных майстэрань і прадпрыемстваў, — выключэнне складала фабрыка Шарашэўскага на 1,5 тысяч рабочых, — 9 навучальных устаноў (з іх 2 гімназіі), 2 тэатры, 3 кнігарні. Будавалася занёманская частка. Багдановіч знайшоў двухпакаёвую кватэру ў доме Станіслава Марушэўскага на Новым Свеце, які знаходзіўся на ўсход ад вакзала за Батанічным садам да Станіславова — вуліцы Паўночная, Садовая, Якаў Праспект, Загарадная. У лісце аб гэтым Адам Ягоравіч піша: "... хадзіў прагулянца і наймаць кватэру, паколькі цяпер зручны час: пасля, калі палкі вернуцца, не знойдзеш ні за якія грошы.

І ўяві, як я ўсцешаны, што знайшоў — і вельмі падыходзіць нам тая кватэра: два досыць вялікія пакоі, прасторная кухня, пярэдняя, гарышча і паветка на дровы — і ўсё за 104 рублі ў год; грошы ўносіць наперад за паўгода — тут такі парадак. Але гэта не так важна, галоўнае вуліца ціхая, сабакі не сустрэнеш, пры доме садок, а за домам — поле. Паветра чыстае, мяса блізка. Ваду толькі трэба купляць бочкамі.

Знайшоў я кватэру ... Мне ж усёроўна трэба недзе жыць, а тут пакой з самаварам каштуе 8 рублёў, то і розніца невялікая ... У тым жа лісце першыя ўражанні ад горада: "Гародня куды менш за Менск. Палавіна горада чыстая, а палавіна — брудная. Шмат прыгожых дамоў, але і маленькіх шмат. Багатыя крамы ўперамешку з беднымі. Малыя скверыкі. Гарадскі сад меншы, чым у Менску. Тэатр летні. Бібліятэка ... пакуль не ведаю, якая, не быў там. Блізка Друскенікі. Не хвалюйся — будзем жыць ... "

У гэтай кватэры, Багдановічы жылі да лета 1895 года.

У лісце ад 23 ліпеня Адам Багдановіч апавядае Марыі, як яны будуць ехаць



*Алесь Чобат і Кастусь Тарасаў у гасцінай Багдановічаў*

у Гародню. 2 жніўня ён выедзе па іх з Гародні праз Вільню, у Вільні яму трэба будзе вырашыць нейкія справы, можа ён паспее за некалькі гадзін, пакуль будзе стаяць той цягнік, а можа прыйдзецца спыніцца ад цягніка да цягніка на суткі. У Менску ён спыняцца не будзе, — Гапановічы і Кернажыцкія падыйдуць на вакзал. У Мар'інай Горцы ён пагасцюе з сям'ёй 2-3 дні, у Менску пабудуць да пятніцы. Найлепей вяртацца ў Гародню начным цягнікам у пятніцу, каб выкарыстаць адсутнасць яўрэяў, бо цяпер у выніку іх пераезду ў Амерыку вагоны бітком набітыя, і не тое, што сядзець, стаяць няма як.

14 лістапада 1893 года ў Гародні нарадзіўся Леў. То ў іх ужо было трое хлопчыкаў — Вадзім, Максім і Леў. Зрабілася цесна ў двух пакоях. Вясною 1895 года Марыя паехала з сынамі да сястры Стэфы ў Вяззе каля Асіповіч. Адам Ягоравіч знайшоў чатырохпакаёвую кватэру ў доме Агульніка, зноў на Новым Свеце. 2 ліпеня 1895 піша ў Вяззе аб гэтай кватэры: ... ухо нанятая ў доме Агульніка, 4 пакоі і кухня большая, чым папярэдняя, склеп, кладоўка, склад, гарышча, кавалак саду ... За 140 рублёў, плаціць па трэцях ...

У гэтай кватэры у іх было дзве служанкі — старэйшая Тафіля прыходзіла з вёскі і дзяўчынка Дарка, якую Марылька вучыла чытаць.

Пра трэці адрас Багдановічаў вядома толькі з "Памятнай кнігі" за 1897 год, але ў гэтым годзе Багдановічаў ужо не было ў Гародні. Можна здагадвацца, што яны памянялі жыллё пасля нараджэння Ніны, а яна нарадзілася 30 траўня 1896. Вось тады яны, відаць, і пераехалі ў дом Шагіта на вул.Палявую. На адвароце фатаграфіі Івана Канстанцінавіча Сямакіна надпіс: "Дорогому Адаму Егоровичу Богдановичу на добрую память от Семакина" дата стаіцьь 16.XI. 1896 года. Напэўна, гэта развітальны надпіс.

Сялянскі банк у Гародні быў адчынены 10 лютага 1885 года, пераехаў у Пензу ў першую вайну, "сканфіскаваны" ў снежні 1917 года. Пакуль у банку працаваў Багдановіч, банк знаходзіўся ў доме Рэйнгарта ў Гарохавым завулку, у доме Ашкеназе на Гараднічанскай. Упраўляючы Дзікоў Павел Міхайлавіч з жонкай і двума дзецьмі жыў пры банку.

Бухгалтар Панчанка і пісцы наймаліся за кошт 1% збораў з заёмшчыкаў. Так што трэба было круціцца, каб зарабіць. Шмат якія справы пісаліся рукой Адама Багдановіча, у Гарадзенскім архіве захоўваюцца цэлыя канцылярскія кнігі ягоных аўтографаў.

Працавалі ў банку да абеду. Па службе чыноўнікі праводзілі час у клубах па інтарэсах, каб быць навідавоку адзін у другога. Адам Багдановіч быў сябрам праўлення Гарадзенскай народнай бібліятэкі, склаў каталог расейскіх і замежных выданняў па аддзелах, які і быў надрукаваны ў 1895 годзе.

Гарадзенская бібліятэка працавала ад сакавіка 1863 года, спачатку са складак аматараў, ад 1876 — напалову дзяржаўная. У 1894 годзе мела 719 падпісчыкаў і больш як 5 тысяч наведвальнікаў чытальні. На яе адрас ішло 8 газет, 8 часопісаў, 76 перыядычных выданняў — усяго 4 203 тамы і 1 669 назвы кніг у 3 236 тамах. Сябрам управы пастаянна выбіраўся і Яўстафій Арлоўскі (1862-1913), гісторык, настаўнік, археолаг, краязнавец, напісаў добрую кнігу "Гродненская старина", выдаў у 1910 годзе. Кніга па сёння ва ўжытку гарадзенцаў і вартая факсімільнага перавыдання. Захавалася ў Гародні брашура Адама Багдановіча "Про панщину" з даравальным надпісам "Многоуважаемому Евстафию Филоретовичу Орловскому от автора".

Супрацоўнічаў Адам Багдановіч у неафіцыйнай часцы "Гродненских губернских ведомостей", рэдактарам якой быў тутэйшы чалавек Давідовіч Канстанцін, загадчык друкарні, начальнік газетнага стала. Да 1887 года скончыў Свіслацкую семінарыю і працаваў у Гарадзенскім прыходскім вучылішчы. Зрабіў кар'еру, таму што меў расейскую жонку Алену Постнікаву. Мелі 4 дзяцей. Атрымліваў 1230 рублеў у год. Быў хрышчоным бацькам Ніны Багдановіч, ахрышчана 18 жніўня. У 1897 годзе перабраўся ва ўласны дом на Паўночную вуліцу. Калі летам 1895 Багдановіч вырашыў знайсці большую кватэру, то старую на лета аддаў гаспадарам, а рэчы перацягнуў на склад да Давідовіча, паскладаўшы іх у куфэркі, карзінкі. Але займацца матэматыкай з Міцем Давідовічам адмовіўся. Калі Марылька лячылася ў Друскеніках, яе адведвала там Алена Давідовіч.

У неафіцыйнай часцы Адам Багдановіч друкаваў сваю працу "Про панщину" У № 10,11,16, 18 за 1894 год, пасля выдаў асобным выданнем. Гэтак жа і "Пережитки древнего миросозерцания у белоруссов" друкаваліся у № 10-45 за 1895 год, пасля ў чэрвені 1895 выйшла асобнай кнігай 500 асобнікаў, якія сам аўтар выкупіў у кнігарнях.

Супрацоўнічаў Адам Багдановіч і ў афіцыйнай газеце, рэдактарам яе быў Яноўскі. Адам хваліўся Марыльцы, што яго не скароцяць у банку, бо Яноўскі заступіцца. Ён, нават, у камандзіроўку ездзіў ад газеты, напрыклад у Бярэсце, каб зрабіць рэпартаж аб пажары. Ён, нават, сталаваўся нейкі час у Яноўскіх, пакуль быў адзін, платы з яго не бралі. Ніхто не браў з яго платы, пакуль сям'я адпачывала ў Вяззі. Напрыклад, Івановы. Марыя Іванова была хрышчонай маці Лёвы. Яе муж падпалкоўнік Аляксандр Міхайлавіч загадваў гаспадаркай батальёна. Да яго Адам ездзіў на выхадныя ў летні лагер. Летам 1895 года ён купіў фотаапарат — падзея, аб чым Адам пісаў у Вяззе Марыльцы.



*Супрацоўнік Косця Латушцаў на ганку музея Максіма Багдановіча*

Пакуль сям'я гасцявала ў Вяззі, бацька пасылаў ім туды лісты, газеты "Гродненские губернские ведомости" і "Русские ведомости"; пасылаў Марыльцы папяросы, у падарунак наслаў шкатулку, каб яна там хавала ад хлопцаў іголкі і тэрмомерт, шкатулка гэтая, з'яўляецца ўпрыгожаннем музея М.Багдановіча ў Гародні. Пасылаў ад 3 да 20 рублёў, панчошкі коштам ад 90 да 30 капеек, абутак: Марыльцы за 2 рублі, Вадзіму за 2,20, Максіму за 2,40, Лёву за 40 капеек. Купіў ёй нейкую машынку — ці грамафон ці сімфаніён ... Рэчы, якія апраўляў сабе, каштавалі крыху даражэй. 33 рублі растраціў на пiджак белы з часучы. Краўцу ў Менску за паліто заплаціў 8 рублёў. Але ж яму трэба было знаходзіцца ўвесь час на людзях, а дзеці і жонка маглі апранацца і працей.

За побыт у Гародні Марыя надрукавала адно апавяданне ў газеце. Навошта ён дазволіў ёй надрукаваць апавяданне? Мусіць, хацеў, каб яна сама зразумела, што ёй трэба займацца разумнымі і таленавітымі сынамі , а пісаць будзе ён. Называў яе пяшчотна "дурка".

Нарадзілася Ніна 30 мая 1896 года, праз месяц Марылька захварэла скарацечнай чахоткай. Спачатку прыехала да іх Магдалена Гапановіч, пасля з Адэсы , куды завёз яе бацька, Марыя Ягораўна. Адвезлі Марыльку ў Друскенікі на чыстае паветра, на малачко. Некалькі лістоў засталося з таго часу, пранізаных безнадзейнай пяшчотай. Ездзіў да яе на цеплаходзе. Пасылаў лекі, віно, каньяк, сасіскі ў банках і ... папяросы.

Адпявалі яе ў Сафійскім саборы, (цяпер няма), — быў перабудаваны з касцёла Вітаўта. З метрычнай кнігі: " 4 кастрычніка памерла, а 6-га пахавана жонка памочніка бухгалтара Марыя Апанасаўна, 27 гадоў ... " "Пахавалі яе справа ад галоўных варот і дарогі да царквы, не даходзячы наўскасяк да магілы з прыгожым помнікам з медальёнам ..."

Адам Багдановіч ужо ведаў, што ў гэтым краі яму ходу не будзе. Каб зрабіць кар'еру, спрабаваў стаць расейцам, але гэтага было замала. Таму і выехаў у Ніжні Ноўгарад. Там яго беларускасць успрымалася, як экзотыка. Там ён зрабіў кар'еру, выхаваў сына на багатай расейскай літаратуры. У сына не было закамплексаванасці перад расейцамі, як ва ўсіх беларусаў, ён там быў Максімам-кніжнікам.

Сёння Максім Багдановіч служыць добрым прыкладам беларускай моладзі, якая расце ў тутэйшых расейскамоўных сем'ях, — ён выйшаў з расейскамоўнай сям'і і здолеў стаць вялікім паэтам, класікам.

***Алесь Чобат***
***Гародня***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:***
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:***
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by

***Рэдакцыйная рада:***
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў, Эрнэст Ялугін.

***Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 30. 11. 98 г.
Наклад 3500 асобнікаў. Замова № 2856 .
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 12 000 руб., 3 мес.- 36 000 руб.